*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№7 жнівень 2011***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

# Алесь Бяляцкі за кратамі




***Алесь Бяляцкі, вядомы праваабаронца, старшыня Праваабарончага цэнтру "Вясна", актыўны змагар за незалежнасць Беларусі, чалавек, які бароніць ідэі свабоды і справядлівасці ў Нашай Краіне, літаратар і дысідэнт .***

# Падпішыце паручальніцтва за Алеся Бяляцкага!

## *Зварот Праваабарончага цэнтру “Вясна”*

4 жніўня 2011 г. у межах крымінальнай справы, узбуджанай па ч.2 арт. 243 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - “утойванне прыбыткаў у асабліва буйным памеры” - быў затрыманы старшыня Праваабарончага цэнтру “Вясна”, віцэ-прэзідэнт FIDH Алесь Бяляцкі. Санкцыя ў межах артыкула, які яму інкрымінуецца, прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Шаноўнае спадарства, “Вясне” патрэбна Ваша салідарнасць!

Мы распачынаем кампанію па зборы паручальніцтваў за Алеся Бяляцкага ад усіх грамадзянаў. Паручальніцтвы мы будзем перадаваць у органы пракуратуры Беларусі. Гэтая працэдура прадугледжана артыкулам 121 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычнае абгрунтаванне

Крымінальна-працэсуальны кодэкс Рэспублікі Беларусь у сваім артыкуле 121 адной з мераў стрымання прадугледжвае паручальніцтва. Дадзеная мера заключаецца ў тым, што не менш за двух грамадзянаў Беларусі выступаюць з хадайніцтвам на імя органаў пракуратуры з тым, каб да асобаў, якія да суду знаходзяцца пад вартай, была прыменена мера стрымання - знаходжанне на свабодзе (падпіска аб нявыездзе). У выпадку, калі асобы, за якіх прынята паручальніцтва, парушаюць ўмовы, то яны могуць быць зноў узятыя пад варту, а таксама ў дачыненні да тых, хто выступіў з паручальніцтвам, можа быць ужытае пакаранне ў выглядзе штрафу. Сам факт наяўнасці паручальніцтваў аўтаматычна не цягне за сабой змены меры стрымання, але з’яўляецца вельмі важкай умовай для выхаду на свабоду асобаў, а таксама дэманструе следству і суду нашую салідарнасць. Грамадзяне Беларусі павінны персанальна ўласнаручна запоўніць бланк паручальніцтва.

На падставе Вашых паручальніцтваў пракуратура можа вызваліць з-пад варты Алеся Бяляцкага.

Гэтую кампанію мы праводзім разам з нашымі партнерамі - беларускімі праваабаронцамі, а таксама Міжнароднай федэрацыяй за правы чалавека (FIDH). Паручальніцтвы будуць збірацца ва ўсім свеце, і мы перакананыя, што шмат хто з сусветна вядомых асобаў падпішуцца пад гэтай заявай.

Мы ставім перад сабой задачу ў самы бліжэйшы час сабраць не менш за тысячу паручальніцтваў толькі ў Беларусі.

ПЦ “Вясна” шмат год бараніў кожнага грамадзяніна, які трапляў у бяду, калі дзяржава парушала яго правы, грэбавала прынцыпамі маралі і законнасці. Мы былі разам з Вамі ў судах, мы рабілі ўсё, каб палітычныя вязні не заставаліся сам-насам у турмах. За гады сваёй працы мы дапамаглі тысячам людзей, пішучы скаргі, звароты і заявы. Мы рабілі ўсё магчымае, каб і ў замежжы ведалі пра сітуацыю ў Беларусі.

Абяцаем, што як бы далей ні разгортваліся падзеі, мы будзем працягваць сваю дзейнасць па абароне правоў чалавека.

Але зараз мы просім у Вас дапамогі.

Падпісацца пад паручальніцтвам можна тут:

Праваабарончы цэнтр “Вясна” – г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 78а-48 (тэл:. (017) 331 08 44)

Беларускі Хельсінкскі Камітэт - г. Мінск, вул. К.Лібкнехта, 68-1201 (тэл:. (017) 222 48 00)

Беларуская асацыяцыя журналістаў – г. Мінск, вул. Камсамольская, 7-32 (тэл:. (017) 203 63 66)

Электронны файл Узор паручальніцтва за Алеся Бяляцкага (0.01 Mb) http://spring96.org/files/misc/paruchalnictva-be.docx

*У Пракуратуру горада Мінска*
*220004 г. Мінск, вул. Ракаўская, 38*

*Аддзел папярэдняга расследавання УДФР КДК*
*па Мінскай вобласці і гораду Мінску*
*220013 г. Мінск, вул. П. Броўкі, д. 3 корп. 2*
*заяўнік:*

_______________________________________________

*(прозвішча, імя)*

_______________________________________________

*(імя па бацьку, год нараджэння)*
*які пражывае па адрасе:*

_______________________________________________

_______________________________________________

*Аб асабістым паручальніцтве*

*ХАДАЙНІЦТВА*
*(у парадку, прадугледжаным артыкулам 121 КПК)*

*Я, ____________________________________________________________, у адпаведнасці з артыкулам 121 КПК Рэспублікі Беларусь прымаю на сябе пісьмовае абавязальніцтва аб тым, што падазраваны Бяляцкі Аляксандр Віктаравіч, калі будзе знаходзіцца на свабодзе, не схаваецца ад органа крымінальнага пераследу і суду, не будзе процідзейнічаць расследванню справы ці разгляду яе судом і не будзе займацца злачыннай дзейнасцю.*

*Прашу азнаёміць Бяляцкага А. В. з дадзеным хадайніцтвам і, у выпадку атрымання ад яго згоды на маё паручальніцтва, гатовы даць падпіску аб асабістым паручальніцтве ў адпаведнасці з законам. Аб адказнасці пры здзяйсненні падазраваным Бяляцкім А.В. дзеянняў, для прадухілення якіх прыменена асабістае паручальніцтва, прадугледжанае ч. 4 артыкула 121 КПК, мне вядома.*

*Пры вырашэнні дадзенага пытання прашу ўлічыць характар падазрэнняў (ці абвінавачанняў), высунутых супраць Бяляцкага А.В., асобу падазраванага, яго ўзрост, стан здароўя, тое, што ён з'яўляецца вядомым грамадскім дзеячом, як унутры краіны, так і за яе межамі, мае сталае месца жыхарства, а таксама тое, што па справе адсутнічаюць дадзеныя аб тым, што ён можа схавацца ад органаў крымінальнага пераследу ці суду, супрацьдзейнічаць папярэдняму расследванню крымінальнай справы ці разгляду яе ў судзе.*

*Аб прынятым рашэнні прашу паведаміць мне ва ўстаноўленым парадку.*

*Дата* *Подпіс* *Прозвішча, імя, імя па бацьку*

# Хроніка праваparушэнняў

*((( Гарадзеншчына, жнівень )))*

**Жнівень.** У Слоніме адмовілі ў правядзеньні пікетаў. Актывісты мясцовай суполкі аргкамітэту па стварэньні БДХ падавалі заяўкі на правядзеньне 6 жніўня пікету з патрабаваньнем вызваліць усіх палітвязьняў у Беларусі, а 14 жніўня – з патрабаваньнем спыніць зьбядненьне людзей.

**5 жніўня.** 35 удзельнікам пратэсту у Брузгах 12 чэрвеня вынеслі прысуд. 4 мільёны рублёў штрафу яны мусяць заплаціць гарадзенскаму спецназу, які іх разганяў. Акрамя 4 мільёнаў, “пратэстанты” павінны заплаціць судовую пошліну – 216 тысяч рублёў.

**Жнівень.** Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў у правядзеньні пікету ў падтрымку палітвязьняў. Адпаведная заяўка была паданая ад імя двух асобаў: Сьвятланы Мілінкевіч, рэгіянальнай прадстаўніцы “Руху за свабоду” і Вадзіма Саранчукова, старшыні Гарадзенскай гарадской арганізацыі Партыі БНФ. Адмова падпісана намесьнікам старшыні гарвыканкаму Аляксандрам Сіўцовым. Чыноўнікі абгрунтоўваюць сваё рашэньне тым, што заяўнікі не могуць належна забясьпечыць умоваў правядзеньня пікету, а таксама медычнага абслугоўваньня і прыбіраньня тэрыторыі.

**9 жніўня**. Гарадзенскі абласны суд пакінуў без задавальненьня скаргу Канстанціна Капліна, асуджанага за ўдзел у акцыі маўклівага пратэсту 3 ліпеня. Інвалід Каплін, які ня мае правай рукі, быў затрыманы ў той дзень на Савецкай плошчы Гародні за тое, што, як вынікала з міліцэйскага пратаколу, ён «пляскаў у ладкі». 6 ліпеня гарадскі суд Гародні прызнаў яго вінаватым ва ўдзеле ў незаконным шэсьці і пакараў штрафам 1 050 000 рублёў. Гэта рашэньне Каплін абскардзіў у абласным судзе. На судовым працэсе 9 жніўня суддзя Анатоль Заяц скаргу інваліда не задаволіў.



**11 жніўня**. Сьвіслацкім актывістам, грамадскім праваабаронцам Віктару Дзесяціку і Юрыю Глебіку забаранілі правядзеньне пікету ў абарону палітвязьняў.

**Жнівень**. Чыноўнікі з Бярозаўскага гарадскога камітэту выявілі "творчую ініцыятыву" пры адмаўленьні грамадскім актывістам Сяргею Трафімчыку, Юрыю Дзяшуку і В. Ашурку ў правядзеньні пікету ў падтрымку палітычных зьняволеных. У адмове заяўнікам пікету, акрамя звычайнай бюракратычнай адпіскі, напісана: "доводим до вашего сведения, что указанная в заявлении цель может вызвать негативную реакцию общества, так как гражданин Никита Лиховид осуждён за участие в массовых беспорядках. Тем самым он проявил экстремистские наклонности...". Ліст падпісаны старшынём мясцовай "вертыкалі" Валерыем Яводзікам.

**Жнівень**. Касацыйныя скаргі ўдзельнікаў маўклівых акцый адхілілі. У Гарадзенскім абласным судзе разглядаліся касацыйныя скаргі ўдзельнікаў маўклівых акцый з ліпеня. Усе адміністрацыйныя штрафы, якія папярэдне выносіліся судом Ленінскага раёну, былі захаваныя без зьменаў.

**16 жніўня.** Гарадзенскія чыноўнікі адмовілі мясцовым грамадскім праваабаронцам Віктару Сазонаву і Уладзіміру Хільмановічу ў правядзеньні пікету 22 жніўня ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Адказ за подпісам намесьніка старшыні гарвыканкаму Дзмітрыя Куранцова па бюракратычнаму фармальны і без тлумачэньняў: "на основании не соблюдения заявителями пункта 4 статьи 5 Закона Республики Беларусь "О масссовых мероприятиях в Республике Беларусь".

**18 жніўня**. У Гарадзенскім абласным судзе адбыўся разгляд чарговых скаргаў на адміністрацыйныя затрыманьні пад час маўклівых акцыяў. Гарадзенцы Аляксандар Кірэеў і журналіст Радыё “Свабода” Міхал Карневіч не дачакаліся зьменаў у рашэньні суду першай інстанцыі.

**Жнівень**. Раённы выканаўчы

# Хроніка праваparушэнняў

### ((( Гарадзеншчына, жнівень )))

камітэт гораду Астравец адмовіў у правядзеньні пікету супраць будаўніцтва Астравецкай АЭС. Заяўку падавалі лідары Астравецкай раённай суполкі АГП Іван Крук і Мікалай Уласевіч. Пікет планавалася правесці пад лозунгам "Чарнобыль, Фукусіма, Астравец – гэта нам трэба?".

**22 жніўня** у Кастрычніцкім раённым судзе Гародні адбыўся перагляд адміністрацыйнай справы яшчэ аднаго ўдзельніка акцый "маўклівага пратэсту" Дзмітрыя Бакуновіча. Абласны суд праз скаргу на недастатковасьць сьведкаў вярнуў справу ў суд першай інстанцыі.

**23 жніўня.** Гарадзенскія праваабаронцы зладзілі ў горадзе над Нёманам акцыю ў падтрымку Алеся Бяляцкага. Грамадскія праваабаронцы раздавалі адмысловыя бюлетэні, прысьвечаныя арышту Алеся Бяляцкага, ходзячы па вуліцы Ажэшкі і цэнтральным парку імя Жылібера. Напрыканцы акцыі трыма асобамі ў цывільным быў затрыманы Віктар Сазонаў. Пасля таго, як яго пратрымалі ў пастарунку на вуліцы Гарадніччанскай чатыры гадзіны, у офісе на вуліцы Будзёнага і дома ў праваабаронцы былі праведзеныператрусы. Былі забраныя два сістэмныя блокі, кашулькі з выявай Бяляцкага, улёткі і бюлетэні, асобнікі беластоцкай газеты "Ніва", рэкламная прадукцыя "Радыё Рацыя".

**24 жніўня** грамадскі праваабаронец Віктар Сазонаў быў выкліканы на допыт у якасьці сьведкі па крымінальнай справе Алеся Бяляцкага. Позву асабіста яму перадала сьледчая па гэтай справе Тацяна Касынкіна, якая прыехала ў Гародню зь Менску. Віктара Сазонава



знайшлі ў будынку па вуліцы Будзёнага 48а, прычым не ў яго працоўным, а зусім у іншым офісе. Яшчэ днём няведамыя асобы спрабавалі пранікнуць у працоўнае памяшканьне мясцовых праваабаронцаў.

**25 жніўня**. У Гародні ў якасці сьведкі па справе Алеся Бяляцкага быў дапытаны мясцовы праваабаронца Віктар Сазонаў. Размова вялася вакол справы, па якой ідзе сьледства.

**25 жніўня** стала ведама, што распачата новая крымінальная справа - нібыта за зьбіцьцё ахоўніка офіснага цэнтру Партыі БНФ у Менску. У ліку падазраваных актывісты БНФ - менчукі Алесь Каліта, Сяргей Семянюк і гарадзенец Максім Губарэвіч. Максім Губарэвіч выкліканы сьледчым праз тэлефон на допыт у сталіцу на 26 жніўня.

**25 жніўня.** Заяўка на пікет у падтрымку зьняволенага Алеся Бяляцкага ў раённым цэнтры Сьвіслач, якую падавалі ведамыя мясцовыя грамадска-палітычныя актывісты Віктар Дзесяцік і Юры Глебік, таксама не задаволеная мясцовымі ўладамі. Заяўка падавалася на 27 жніўня. Сваю адмову Сьвіслацкі райвыканкам за подпісам старшыні Алега Таргонскага тлумачыць тым, што заяўленае месца - плошча Карла Маркса насупраць помніка Кастусю Каліноўскаму знаходзіцца на адлегласьці менш 200 метраў ад пешаходнага пераходу і аўтамабільнай дарогі. Міліцыя пад падпіску папярэдзіла сябра БСДГ Віктара Дзесяціка, і сябра "Фонду імя Льва Сапегі" Юрася Глебіка пра адказнасьць, калі тыя не прытрымаюцца забароны правядзеньня пікету.

**28 жніўня**. У выходны дзень, праз дзесяць сутак пасля факту затрыманьня, ваўкавыскія міліцыянты склалі пратакол на ваўкавыскага актывіста Віталя Гуляка. Яго вінавацяць па частцы першай артыкулу 23.34 (удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве). Суд адбудзецца пазьней. Гуляка затрымалі ў Ваўкавыску пры распаўсюдзе улётак, якія тычацца народнага сходу, запланаванага на кастрычнік. Тады ваўкавыскі актывіст даў пісьмовыя тлумачэньні.

# Рэванш дракона

***Дваццаць гадоў таму ў Маскве здарыліся падзеі, якія вызначылі лёс прынамсі аднаго пакалення на вялізнай еўраазійскай прасторы. Уласна ад пачатку мне хацелася прысвяціць гэты артыкул тагачаснаму адчуванню той знамянальнай падзеі, але куды ж дзенешся ад сённяшняга дня... У жніўні 1991-га ў сталіцы вялізнай краіны здарыўся камуністычны путч, які быў рэакцыяй на гарбачоўскую перабудову. Путч з трэскам праваліўся, а ў наступным блізкім выніку гучна ляснуўся і ўвесь Савецкі саюз. 25 снежня Міхаіл Гарбачоў пакінуў пост прэзідэнта неіснай ужо краіны, а над Крамлём быў спушчаны чырвоны сцяг. Новы год мільёны людзей сустрэлі ў сваіх незалежных асобных дзяржавах. Гэта ўсё роўна, як пражыць паўжыцця ў шматлюдным інтэрнаце, а пасля пераехаць ва ўласны дом.***

Для Беларусі гэта быў сама шчаслівы перыяд за некалькі апошніх стагоддзяў. Шкада толькі, што доўжыўся ён так мала... Спакваля галовы ў “савецкага цмока” сталі адрастаць. Дракон незаўважна і паслядоўна браў рэванш. У Беларусі не адбылося фактычнай змены ўлады, па-ранейшаму кіравала камуністычная наменклатура, якая не мела дзяржаўнага мыслення, не хацела палітычных і гаспадарчых рэформаў і ніяк не ўмела “жыць без Масквы”. Усё гэта прывяло да крызісу, маральнай разгубленасці грамадства, для якога было нязвыкла жыць вольна і якое інстынктыўна шукала простых развязанняў. У выніку скончылася фатальна – прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, які першым пачаў вяртаць усё савецкае. У Расіі таксама не прайшла люстрацыя, пачаўся дзікі капіталізм, дзе галоўнымі ўласнікамі-“прыхватызатарамі” сталі былыя камуністычныя партыйныя бонзы і кэгэбэшныя палкоўнікі. Урэшце дайшло да адстаўкі старэючага нямоглага Барыса Ельцына і прыходу да ўлады пуцінскага “кааператыву”. Крэмль, які ні губляў кантролю над Беларуссю ўвесь гэты час, актыўна стаў укараняць і на тэрыторыі Расіі беларускія “напрацоўкі”. Такія, як пазбаўленне парламенту самастойнасці, знішчэнне мясцовага самакіравання і незалежных медый, канцэнтрацыя капіталаў у руках вузкага кола людзей. Некаторыя аналітыкі слушна называюць гэта “гэбэшны капіталізм”. З нядаўняга часу падобныя працэсы імкліва пайшлі і на Украіне. Такім чынам, на тэрыторыі трох былых савецкіх славянскіх рэспублік усталяваліся рэакцыйныя рэжымы. У Беларусі, з аднаго



боку, сітуацыя найгоршая, бо ў нас дзяржаўная сістэма не толькі антыдэмакратычная, а надзвычай і наскрозь антынацыянальная, антыбеларуская. А з іншага, беларускае грамадства прайшло ўжо доўгі шлях змагання, імкнення вызваліцца. У вялікіх гарадах людзі стаміліся ад існага стану рэчаў і хочуць пераменаў. Выявілася гэта выразна і ў апошнюю кампанію па выбарах прэзідэнта, калі дзесяткі тысяч выйшлі на вуліцы бараніць свой выбар. Драматычны час нарадзіў і новых герояў. Беларусы могуць ганарыцца такімі людзьмі як Андрэй Саннікаў і Зміцер Дашкевіч, Мікола Статкевіч і Мікіта Ліхавід, многімі іншымі палітвязнямі. Цяпер да іх дадаўся і Алесь Бяляцкі. Ведаючы, што рэжым рыхтуе яму турэмнае зняволенне, ён не з’ехаў з краіны, хоць меў такую магчымасць. Ён свядома пайшоў на гэта, бо заўсёды змагаўся за правы іншых, за праўду, за вольнасць. Рэнесанс расійскага імперскага рэжыму стаў магчымым таксама з-за таго, што сучасная Еўропа і нават ЗША саступаюць крамлёўскім правадырам у новай халоднай вайне. Захад стараецца заплюшчыць вочы на гэтую вайну. З аднаго боку Масква распальвае нянавісць да дэмакратычнага свету, з іншага – адбываецца ціхая капітуляцыя перад Крамлём. Што тут казаць, калі былы канцлер Нямеччыны служыць на расійскай “бензакалонцы”. Захад дзеля эканамічнай выгады даўно ўжо закрывае вочы на тое беззаконне, што робіцца ў Расіі і падуплыўных ёй дзяржавах. Даўно не відаць новых “рэйганаў” і “татчар”. У сусветнай палітыцы дамінуе слоўная дэмагогія, сучасныя лідары ў большыні не маюць ні поглядаў, ні пазіцый, адно толькі кіруе імі – хвілінная выгода ў бліжэйшы момант. Зараз гэта называюць мудрагелістым хцівым словам “рэал-палітык”. Але рана ці позна ў вялікай палітыцы знойдуцца людзі, якія зразумеюць усю небяспеку і зноў пачнуць па-сапраўднаму змагацца з “цмокам”...

*Уладзімір Хільмановіч*

# Без альтэрнатыўнай інфармацыі

***Тэма арышту беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага ўжо доўгі час не пакідае старонкі сусветнай прэсы. Напачатку газеты друкавалі няўпэўненыя прабачэнні літоўскіх чыноўнікаў, якія называлі выдачу рахунка на праваабарончую дзейнасць, які быў зарэгістраваны на імя Алеся Бяляцкага, незразумелай недарэчнасцю.***

***Пасля гэтая "недарэчнасць" выплыла і ў Польшчы. Некаторыя з датычных да выдачы рахункаў чыноўнікаў, улічваючы маштабы скандалу і маральную ды этычную складаючую падаплёку, паплаціліся нават сваімі пасадамі. А палітыкамі былі зробленыя заявы, што пралікі тых чыноўнікаў аніяк не вяжуцца з прагай нашых суседзяў спрыяць пабудове дэмакратыі і прававога грамадства ў Беларусі.***

На жаль, ні Алесю Бяляцкаму, ні яго паплечнікам, ні тым апазіцыянерам, якія адбываюць розныя тэрміны пакарання, і разлічваюць на дапамогу праваабаронцаў, ні іх сем'ям, лягчэй ад гэтага не стала. А беларуская дзеючая апазіцыя атрымала яшчэ большы шок, чым пасля прэзідэнцкіх выбараў мінулага году. А на гэта, хіба, усё і было разлічана.



А вось версіі, чаму гэтыя звесткі патрапілі ў рукі беларускіх уладаў, множацца з кожным днём. У літоўскай газеце Lietuvos zinos, у артыкуле "За галаву дысідэнта – мільённыя інвестыцыі", аўтар Раса Калінаўскайце аргументуе сваю ўпэўненасць у тым, што сярод адказных літоўскіх асобаў знайшліся такія, якія патрэбную беларускаму боку інфармацыю аддалі не за дарма. І гэтае "не за дарма" не такое і малое.

Ды што там узнагароджванні за пэўныя паслугі. Смех адзін. Увесь свет зараз жыве падобнымі рэчамі. Дастаткова паглядзець, якія замежныя кансультанты працуюць, прыкладам, у расійскім "Газпроме", каб зразумець, што замежныя ўзнагароды для еўрапейцаў справа не новая, і нават цалкам законная.

Таму грашовая версія нікога не ўразіла асабліва. Больш цікавымі сталі кулуарныя спрэчкі пра тое, на якіх замежных чыноўнікаў ляжыць кампрамат у Крамлі яшчэ з часоў сацыялізму. І што гэтым кампраматам можна купіць або запалохаць кожнага былога будаўніка камунізму, хто так і не патрапіў пад люстрацыю з тых сацыялістычных часоў. Але і гэтая версія мае замежнае адценне, і ані кроплі не цікавіць беларусаў. Ні тых, хто апазіцыя, і ні тых, хто ёй стаць баіцца. І ні ўсіх астатніх.

Прыкладам, беларускае тэлебачанне і афіцыйная прэса еўрапейскія версіі не агучвае. У іх ёсць свая, якую яны і даводзяць да насельніцтва дзесяцімільённай краіны. Але яна настолькі ўжо агульнавядомая, што паўтараць яе няма сэнсу.

Сябры і паплечнікі Алеся Бяляцкага таксама трымаюцца сваёй версіі. Менавіта яе яны і вырашылі данесці беларускаму грамадству. І для гэтага, былі пададзеныя заяўкі на інфармацыйныя пікеты ў каля двух дзесяткаў гарадоў. Паралельна з інфармаваннем суайчыннікаў, вырашана было збіраць подпісы пад хадайніцтвам, каб Алесю Бяляцкаму змянілі меру стрымання з арышту на падпіску аб невыяздзе.

Здавалася б, справа простая. Хай бы людзі паслухалі, за каго яны ставяць подпіс. Што ад іх хаваць? Бо калі нехта нешта хавае ад іншых, то гэтым ужо ўскосна прызнае сваю неправату. А хто робіць справу справядлівую, той хваліцца тым. Ці, калі не хвалько, то моўчкі ганарыцца.

Пікеты забаранілі. Паўсюдна. У малых мястэчках і ў абласных гарадах, у раённых цэнтрах і ў сталіцы. Улады не захацелі, каб сябры і паплечнікі Алеся Бяляцкага расказалі суайчыннікам пра дзейнасць праваабаронцы. Грамадства зноў засталося без альтэрнатыўнай інфармацыі.

Праваабаронцы ўсядно выйшлі да людзей. Сілавікі сустрэлі іх па-рознаму. Дзесьці мерапрыемства прайшло спакойна, як у Гомелі. А дзесьці былі і затрыманні, як у Мінску. Але часткова, сваёй мэты праваабаронцы дасягнулі. Сотні людзей ужо падпісаліся за вызваленне Алеся Бяляцкага. Тысячы даведаліся пра сітуацыю з ім. А некаторыя, у тым ліку і сілавікі, задумаліся пра тое, што як не будзе праваабаронцаў, то хто іх бараніць будзе ў разе чаго.

***Віктар Сазонаў***

## *Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на верасень 2011 году*

**1 верасьня**

**580** гадоў таму (1431) – Было падпісана пераміp'е ВКЛ з Польшчай, паводле якога Польшча прызнала Сьвідрыгайлу вялікім князем і уладаром усіх зямель ВКЛ.

**3 верасьня**

**280** гадоў таму (1731) – У в. Занкі (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, беларускі вучоны, царкоўны дзеяч, літаратар.

**7 верасьня**

**Дзень беларускага пісьменства і друку**

**155** гадоў таму (1856) – Памёр Цімафей Ліпінскі, гісторык, географ, філёляг, калекцыянэр, краязнавец. Нараджэнец мяст. Дзярэчын (Зельвенскі р-н).

**8 верасьня**

**Дзень Беларускай вайсковай славы.**

**220** гадоў таму (1791) – У Вільні нарадзіўся Людвік Сабалеўскі, філёляг, бібліёграф. Працаваў у Шчорсах.

**11 верасьня**

**170** гадоў таму (1841) – У в. Дэмбрава (Шчучынскі р-н) нарадзіўся Гіяцынт Альхімовіч (пам. пасьля 1897 у Францыі (?)), мастак, удзельнік паўстаньня 1863-64.

**170** гадоў таму (1841) – У в. Коркіна (Іркуцкая губ., Расея) на пасяленьні пасьля катаргі памёр Міхал Рукевіч, удзельнік вызвольнага руху, філямат. На пач. 1820-ых жыў у Мількаўшчыне (Гарадзенскі р-н).

**17 верасьня**

**120** гадоў таму (1891) – У в. Балічы (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Антон Баліцкі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч.

**18 верасьня**

**55** гадоў таму (1956) – Памёр Міхал Борык, беларускі каталіцкі сьвятар. З 1933 служыў у Смургонях, у 1933-38 – у Нястанішках (Смургонскі р-н).

**19 верасьня**

**90** гадоў таму (1921) – У мяст. Здалбунаў (Ровенская вобл., Украіна) памёр Кандрат Лейка, беларускі пісьменьнік, педагог. Нараджэнец в. Збочна (Слонімскі р-н).

**20** гадоў таму (1991) – Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб зьмене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацьверджана "Пагоня", Дзяржаўным сьцягам – бела-чырвона-белы сьцяг.

**24 верасьня**

**370** гадоў таму (1641) – У в. Ятра (Навагрудзкі р-н) нарадзіўся Станіслаў Незабітоўскі (пам. увосень 1717 у Наваградку), палітычны, грамадзкі дзеяч, мэмуарыст.

**25 верасня**

**60** гадоў таму (1951) – У савецкім канцлягеры (Комі АССР) загінуў Вячаслаў Лаўскі, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, педагог, адзін з заснаваньнікаў беларускага студэнцкага руху. Нараджэнец в. Слачва (Навагрудзкі р-н), працаваў у Наваградку.

**28 верасьня**

**75** гадоў таму (1936) – Нарадзіўся Рудольф Пастухоў, беларускі пісьменьнік, грамадзкі дзеяч. Жыў у Слоніме.

**29 верасьня**

**120** гадоў таму (1891) – У в. Бацэвічы (Клічаўскі р-н) нарадзіўся Аркадзь Смоліч, беларускі нацыянальна-дзяржаўны дзеяч БНР, вучоны ў галіне эканомікі, сельскай гаспадаркі, географ, картограф. У лістападзе-сьнежні 1918-га па даручэньні ўраду БНР працаваў у Гародні.

---



---

***Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце***

**www.harodniaspring.org**

---

***Праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце***

**www.spring96.org**

---

**Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь «Прэзумпцыя»**
**выходзіць 1 раз у месяц**
**наклад 299 асобнікаў**
**для нутранога карыстаньня**

**падрыхтаваны да друку: жнівень 2011**
**e-mail:prezumpcyja@gmail.com**
**распаўсюджваецца задарма**
**пры передруку спасылка абавязковая**

